Аднойчы, насамрэч, на наступны дзень, як Беласнежку і ейных дзяцей выгналі на Ферму, а Бозлі Воўк навекі пакінуў Фэйблтаўн, чалавек па імені Джэк адправіўся на пошукі больш шчаслівага шляху.

Дык куды мы едзем, Джэк?

Джэк рухаўся на захад у арандаваным грузавіку, гружаным скрадзенай здабычай, і вось дзе пачынаецца наша гісторыя.

Што-што? Гучней, крошка, я цябе амаль ня чую.

BILL WILLINGHAM, WRITER/CREATOR PRESENTS

JACK BE NIMBLE

PART ONE OF TWO

CHAPTER ONE: JACK AND JILL

DAVID HAHN, PENCILS AND INKS

KLEIN, LETTERS · VOZZO, COLORS · JEAN, COVER

MARIAH HUEHNER, ASST. ED · SHELLY BOND, EDITOR

CONVERSION BY WILDSTORM


Шум рухавіка заглушвае цябе.
Я запытала, куды мы едзем?
А якая **розніца**? Перш як я працягнуў цябе ў Фэйблтаўн на мінулым тыдні, ты ніколі не была па-за Фермай.


Прызнай, Джыл. Ва ўсім свеце, куды б мы не накіраваліся, для **цябе** гэта будзе **экзотыкай**.


Але ў мяне ўсё ж павінна быць права голасу. У рэшце рэшт, ты б ніколі не атрымаў доступ да нашых багаццяў, калі б я ня скрала ключ ад нашай скарбніцы.
Перш за ўсё, маленькая, гэта ня **нашае** багацце, а **маё**.


Усё, што ты атрымаеш у абмен на дапамогу ў маім свавольстве – гэта паездка ў невядомасць. Ты з поспехам **уцякла** з Фермы і Фэйблтаўна. Гэта ўсё, чаго ты жадала.
Прынамсі, калі мы абмяркоўвалі гэтую дамоўленасць, ты прасіла толькі **аб гэтым**.


Гэта не **сумленна**!
Ты атрымала каштоўны **ўрок**, Джыл. У наступны раз **разважай** над умовамі пагаднення.
Зараз сядзі на месцы. Калі ты будзеш ехаць побач са мной, усялякі дапытлівы **звычайны** палічыць цябе за ляльку з хіскай галавой на прыборнай панэлі.

Прай-
шлі дні.
Прачынайся, Джыл. Мы ў Галівудзе.
Мы гэта зрабілі.


Нарэшце.
Ты выглядаеш **кепска**.
Ды і адчуваю сябе таксама ж.


Восем дзён **дрэннага** сну ў гэтым грузавіку бяруць сваё.
Мы маглі б начаваць у гатэлі.
І пакінуць **бітком напакава-
ны** золатам і каштоўнасцямі грузавік бяз варты на ўсю ноч? Ну не.


Ну і **колькі** мне яшчэ тут сядзець, хаваючыся за фіранкай, Джэк?
RISING STAR MOTEL
WEEKLY AND HOURLY RATES


Будзем дзяжурыць па чатыры гадзіны кожны дзень і ноч, пакуль я не знайду, куды прыладзіць **скарб**.
Да гэтага моманту мы абодва не павінны зводзіць вачэй з грузавіка, што б ні здарылася... без выключэнняў.


Што, калі мне трэба будзе выйсці ў туалет, пакуль ты спіш?
Спачатку пабудзі мяне. Ці **памачыся** на радыятар. Хто ў гэтым сметніку заўважыць крыху мачы дзяўчыны **велічынёй з жука**?


Свіння.
Рох-рох.
Мы ня можам так **доўга** чакаць. У мяне ёсць некалькі знаёмых, якія прыедуць **заўтра**.


Калі ўсё спрацуе, то да канца тыдня ўсе нашыя рэчы будуць у бяспецы, памалу ператвараючыся ў карысны капітал.
**Нашыя** рэчы, абізгал? Я не зацікаўленая ў гэтым, памятаеш?
Небарака.

## Глава другая: Сведчанні Бернарда Штайна.

*Дык вы жадаеце даведацца, што я ведаю пра загадкавага містэра Трука, так?*

Гэ-эй?

*Ну зразумела. Чаму не? Я лічу, што ведаю пра яго ня болей, чым астатнія ў гэтым нікчэмным горадзе.*

Тут ёсць хто?

BERNARD R. STEIN
CPA AND ATTORNEY AT LAW
FINANCIAL PLANNING
THEATRICAL REPRESENTATION
BY APPOINTMENT ONLY

Walk-ins Welcome

Надпіс:
Бернард Р. Штайн
Сертыфікаваны аўдытар
і прысяжны адвакат
Фінансавае планаванне
Тэатральныя паказы
толькі па запісу

*У першы раз, калі я яго сустрэў, ён расхаджваў па маім кабінеце, нібы кажучы «Хто выйграў залаты медаль, як самы прыгожы хлопец у кабінеце, і чаму вы яшчэ не пасябравалі са мной?»*

Вы Бернард Штайн?

Калі вы **новы** кліент, можаце зваць мяне Берні.

Што я магу зрабіць для вас, містэр...?

Завіце мяне містэр Трук.

Гучыць як мянушка.

Так і ёсць. Гэта варта?


У гэтым горадзе? Наўрад.
Я лічу, ты ведаеш. Ты тут ужо на працягу сарака гадоў, так? Наўпросткі чарговая рыбінка, што жыве за кошт мізэрных падачак, што падкідаюць вялікія акулы?


Я б не характарызаваў сваю кар'еру як...
Як наконт таго, каб нарэшце атрымаць сапраўдныя грошы, Берні?
Сядайце, сэр.


Адразу да справы, Берні: я жадаю купіць твае эксклюзіўныя паслугі на адзін поўны месяц, аплата прэміяльная.
Я навічок у Галівудзе і кінавытворчасці. Я ня ведаю нічога пра гэтае... дзёўбанае лайно... але ты ведаш.


Таму ты навучыш мяне. Паведаміш, хто сапраўдныя гульцы, а хто проста раскінуў пальцы веерам.
Грошы тут улада. Гэта я ведаю. І ў мяне грошай больш, чым у Бога, значыць улада ў мяне, так?


Ты пакажаш мне, як пусціць яе ў ход... адкрыта і проста, як молат.
Лайно! Як вялікім атамным молатам.
У мяне няма часу навучацца тонкасцям.
Sisters of Desire

*Мабыць тады мне трэба было штурхнуць яго нагой пад дупу ў першы дзень. Але я так доўга чакаў, пакуль прыбудзе мой карабель, што не заўважыў, што гэта пірацкі карабель, і за штурвалам стаіць абсалютна бязлітасны маркітун.*

*Гэта было вельмі метафарычна?*

Раней гэта была кінастудыя Golden Pictures. Цяпер гэта ў асноўным памыйніца.

Аднак добрае месца. За кутом знаходзіцца студыя Джыма Хенсана.

Гэта той, хто вядомы маляваным **жабянём**?

Не, маляванае жабянё у WB, у Хенсана – лялечнае.

Так. Мне **падабаецца** гэтае месца. Зараз выглядае лайнова, але калі яго вычысціць...

Гэта **велізарныя** выдаткі, містэр Трук. Вытворчыя кампаніі звычайна пачынаюць з таго, што працуюць на іншую студыю – прынамсі, пакуль не паспее свой уласны праект.

Ты вельмі **доўга** іграў ролю другога плана, Берні.

Ты забыўся, як разважаць **маштабна**. Я не зацікаўлены ў сціплых паўмерах.

Купі яго. Але выбей добрую цану. Мы выдаткуем столькі, колькі трэба, але ні капейкі больш. Добра?

Зразумеў, бос.

*Усё ж, я проста траціў чужыя грошы, каб пражыць, іншыя былі вымушаны рабіць працу горай.*



## Глава трэцяя: Сведчанні Моса Уотэрхаўса.

*Я ўжо даволі часта чуў імя «Містэр Трук» да таго моманту, як мой агент арганізаваў нам сустрэчу.*

Мос Уотэрхаўс, я да містэра Трука. У нас назначана сустрэча.

Праходзьце, сэр. Галоўны будынак. Паркуйцеся на любым вольным месцы.

*Здаецца, што ён быў загадкавым чалавекам-інтрыганам, які дзейнічае за кулісамі. Той факт, што ён жадаў трымацца ў ценю ў такім гучным і шалёным бізнесе, гарантаваў яму першае месца сярод такіх як ён.*

Праходзьце, сэр. Містэр Трук чакае вас.

*Трук аказаўся маладым хлопцам. Майго ўзросту. Гэта не здзіўляе, таму што гэта справа моладзі. Але прысягаю перад Богам, у яго былі НАЙСТАРЭЙШЫ Я вочы, што я бачыў.*

Мос!

**Цудоўна** нарэшце з табой пазнаёміцца. Чуў шмат добрага пра цябе.

Ты ня супраць, калі мы апусцім **усялякае** лайно і адразу перайдзем да справы?


СУР'ЁЗНА. Ён выглядаў як ТЫ СЯЧАГАДОВЫ стары ў целе маладога хлопца.
Ты патрэбны нам, каб наша студыя пачала працаваць. Будзеш **тварам** Nimble Pictures.
Праца твая, калі пераканаеш мяне, што ты падыходзіш да гэтага.


Зусім абыякавы позірк. Быццам тут не было НІЧОГА, што б ён ня бачыў мільён разоў да гэтага.
Ну, **здзіві** мяне нарэшце. Што ты прынес да нашага стала?
Я гей, яўрэй, чарнаскуры і ліберал. Я з'яўляюся чальцом усіх неабходных суполак і ведаю ўсё, што зараз **у трэндзе**.


Мне здавалася, што ён дакладна ведаў, калі яму вешаюць локшыну на вушы.
Аніводная душа ў гэтым горадзе – ад уласнікаў найбуйнейшых студый да малодшых дапаможцаў агентаў... **не дазволіць** сабе прапусціць званок ад **мяне**.


Але яму было абыякава.
Жадаеце **пераканацца**? Назавіце, каго пажадаеце – і ён патэлефануе адразу ж.
Гэта не абавязкова. Ты **прыняты**. Жадаеш патаргавацца наконт зарплаты і бонусаў?


Сорам прызнацца, але ён мне адразу СПАДАБАЎСЯ.
Не, гэтым займецца мой агент. Ён вам **спадабаецца**, сапраўдны драпежнік.
Добра. Пачакай хвіліну, а потым пойдзем абедаць.

А потым ён зрабіў адну з самых БЯЗЛІТАСНЫХ рэчаў, што я бачыў – нават для Галівуда.
Ёсць адна справа, аб якой трэба паклапаціцца ў першую чаргу.
Берні, **ачысці** свой стол. Можаш **сыходзіць**.
Я..? Але..?
Чаму?
Я **цябе** перарос, сябра. Цяпер мы гуляем у вышэйшай лізе.
Не глядзі так усхвалявана. Я **папярэджваў**, што нашае партнёрства будзе часовым.
Чорт, ты нават перабраў. Гэта працягвалася на шэсць тыдняў даўжэй, чым я абяцаў.
Але я ўсё яшчэ магу зрабіць уклад у Nimble Pictures, містэр Трук. Я **ведаю**, што магу! У мяне так шмат прапаноў.
Прэч, Берні.
Паспяшаемся. Нас **чакаюць** у іншым месцы...

*Містэр Трук ведаў, як іграць сваю ролю на выдатна. Для прыкладу, кожная шышка у Галівудзе павінна мець прынамсі адну ўнікальную ідыёсінкразію – дзіўная рэч, якая падкрэслівае індывідуальны статус.*

Дастаўка для Nimble Pictures.

У галоўны офіс, спадары.

*Містэр Трук калекцыяніраваў антыкварныя лялечныя хаткі. Не, я НЕ жартую.*

Пастаўце **дзе-небудзь**, хлопцы. Я потым сам разбяруся.

*Ягоны офіс быў повен іх. Шалёна, так, ён не быў падобны на гея, але хто ведае?*

Джыл?

Гэй, Джыл?

Выходзь, выходзь, дзе б ты ні была.


Што табе трэба?
Я проста палічыў, што ты б жадала даведацца, што твая новая хатка **мары** прыехала.
Воў!


Цяпер усе мае надзеі і мары **выкананы**.
Якая муха **цябе** ўкусіла? Я даў табе **дзесятак** асабнякоў, каб ты магла прабавіць час, хоць я і не быў **абавязаны** выдаткаваць на цябе і капейку.


Дзесятак шыкоўных **астрогаў**, Джэк. Я не магу выйсці з гэтага дзёўбанага офіса, і мне трэба хавацца кожны раз, калі хто-небудзь уваходзіць.
Я тут адна, і мне **сумна**.


І гэта мая віна? Гэта тое, што ты жадала, маленькая дзяўчынка.
Не, я жадала пабачыць **свет**.
У такім выпадку ідзі. Толькі не **трапся**, інакш у нас абодвух будуць праблемы.


Як я магу выйсці **куды-небудзь**? Пешкі? Я стану вячэрай для звычайнага пацука перш чым прайду квартал. І я не магу праляцець на звычайнай птушцы. Яна не **размаўляе**!
Я **сумую** па Ферме. Я хачу **дадому**.


І што мне з гэтым рабіць? Засунуць цябе ў **канверт** і адправіць?
**Забудзься**, Джыл. Ты трапіла ў пастку сваіх памылковых вырашэнняў.

# Глава чацвёртая: Сведчанні Шарлін Спек.

Дык вы шукаеце кампрамат на няўлоўнага містэра Трука, так? Ну, не чакайце, што даведаецеся ад мяне што-небудзь.

Яго мабыць ужо няма з намі, але я ўсё яшчэ адна з кіраўнікоў Nimble Pictures і рэдкі чалавек у гэтым горадзе, хто ведае, што значыць слова «адданасць».

З таго моманту, як мы афіцыйна абвясцілі аб нашый існаванні, нас закідалі сцэнарамі і рознымі ідэямі.

Мы павінны былі выбраць некалькі і пачаць працу.

Так, у нас ёсць невялікі мядовы месяц, як для навічкоў у гэтым горадзе, але **доўга** гэта не працягнецца, калі мы не пачнем працаваць.

І ня толькі гэта. Нам трэба даказаць, што мы можам штосьці стварыць.

Спадарства! Магу я прыцягнуць вашую ўвагу?


Мы ўсталёўваем тэндэнцыі, мы не прытрымліваемся іх.

Мы **ня будзем** і разглядаць чужыя прапановы – прынамсі, пакуль наш першы праект ня будзе гатовы.
У нас ёсць выбраны праект? Як **даўно**?

Менавіта гэта наш спецыяльны госць нам і прадставіць.
Шмат з вас яшчэ не сустракаліся з ім, таму дазвольце пазнаёміць вас з нашым галоўным босам, **Джонам Трукам**.
Калі я сустрэла містэра Трука упершыню, бяз сораму прызнаюся, што мае ногі пакасіліся. Добра што я сядзела, так?
Ён быў такім эфектным, здавалася, што я ўбачыла Санта-Клаўса.

Я адразу зразумела, што куды б ён ні ўвайшоў, ён быў галоўным...
А цяпер забіце зяпы і **слухайце** яго.
Дзякуй, Мос. Сардэчна запрашаем на борт, дзетачкі.

Лайно, ды калі б у мяне былі нож і відэлец, я б яго на месцы з'ела.
Наш **першы** праект будзе **трылогіяй** блакбастараў высакаякасных фэнтэзійных фільмаў – як тыя, што кудлаты малыш з Новай Зеландыі стварыў з Уладара Пярсцёнкаў.
Толькі **больш і лепш**, больш пафасу, больш спецэфектаў, больш відовішча – больш **усяго**.


Хадзілі чуткі, што ён быў зніклай знаццю адной з краін Усходняй Еўропы.
Можаце прыняць **хваляванне** са сваіх твараў. Мы ўжо знайшлі фінансаванне.
А калі ёсць, грошы, ўсё астатняе – гэта толькі праца з дробнымі дэталямі.


Ён застаецца ў ценю і выкарыстоўвае выдуманае імя таму, што ён знаходіцца пад смяротным прысудам новага рэжыму сваёй радзімы.
Наш бюджэт для трох фільмаў, якія будуць здымацца адначасова, сціплая лічба ў шэсцьсот мільёнаў.
Ці больш, калі спатрэбіцца.


Воў.
Цяпер падрабязней, мы здымем гісторыю жыцця Джэка.
Без брахні. Гэта тое, што я чула.
Якога Джэка?


Джэка з казак. Таго, хто ўзлез па бабовым сцяблу ў дзяцінстве – гэта **першы** фільм.
І забіў волатаў, калі падрос – гэта **другі** фільм.
А трэці?
未を来す


Ён прыязджае ў Амерыку, **абыграе** д'ябла ў покер, **спакушае** Беласнежку, Папялушку, Рапунцаль і Спячую Прыгажуню і ў канцы **забівае** ў паядынку вялікага лютага ваўка.


Вы **ня можаце** так зрабіць. Гэта героі з розных гісторый.
Яны не з'яўляюцца часткай адна-го выдумага сусвету.
Сапраўды?

Пакуй валізы, Радрыгез. Ты звольнены.
Што! Чаму? Я толькі сказаў...
Таму што ты з тых, хто **ня можа** так зрабіць, а мы можам. Такім як ты тут ня месца, хлопец.

Гэты горад **кішыць** студыйнымі рэптыліямі, якія толькі і ныюць, што нельга тое і нельга гэтае. Да іх і ідзі працаваць.
А зараз пачнем працаваць, дзетачкі.

Спачатку мы згадзім **самых файных** сцэнарыстаў.
Сёння ж заплануйце дзесяць сустрэч з імі на наступным тыдні.

За справу, народ. Мы ўжо адстаем ад графіка.
І калі вы з тых, хто адразу ня можа **ўзяцца за справу**, вы можаце накіравацца за гэтым як-ягонае-імя за дзверы.



Мы не марнавалі час. Гэта была самая эфектыўная кінавытворчасць, дзе я калі-небудзь працавала.
Мы скарыстаем гэты, вось гэты і гэты. Пасціраййце гэтыя два і перарабіце тыя тры.
І дзе дызайн **бабовага сцябла**? Мастацкі аддзел абяцаў мне яго да гэтай раніцы.




Гэта была адзіная вытворчасць, у якой я калі-небудзь працавала, дзе быў толькі адзін чалавек, да яго трэба было падысці, каб ажыццявіць свае планы.
Містэр Трук жадае Брэда Піта на ролю Джэка – ці кагосьці такога ж файнага, як ён.
Няма **нікога** файней за Брэда Піта.
Тады нам лепш наняць яго.




Акей, так, спачатку вы былі б вымушаны прайсці цераз Моса – пасля таго дня ніхто больш не размаўляў адкрыта з містэрам Трукам – але Мос быў ягоным чалавекам, ён адказваў на ўсе пытанні вокамгненна.
Вось сцверджаныя старонкі, Гюнтар. **Колькі** яшчэ да закрыцця? У нас у павільёне запланаваны пачатак будаўніцтва дэкарацый для хмарнага каралеўства.
Мы не паспяваем.
Scene 24 Revision 4
EYES ONLY, DO NOT COPY!!!




Джон Трук дакладна ведаў, што яму трэба. Як толькі ён ставіў мэту, ён ужо ніколі ад яе не адмаўляўся. Вы такіх бачылі ў Галівудзе?
Лес недастаткова высокі.
Але вышэйшых дрэваў не існуе, містэр Мос.
Значыць зробім самастойна. Выклікай верталёт, Білі. Мы вяртаемся ў Лос-Анджэлес.




І я таксама не.
Не, Гільда, даражэнькая, містэр Трук **не дае** інтэрв'ю. Нават для «Вячэрняга Галівуда».
Можаш узяць у **мяне**, ці ў рэжысёра, ці ў галоўных акцёраў. На гэтым **усё**.
Не, выбачай, наведаць нас вы ня можаце. Студыя закрытая.

# Глава пятая: Іншыя сведчанні.



















*Джэймс «Джымі» Хофа – актывіст, які знік пры загадкавых абставінах.

З вамі «**Вячэрні Галівуд**». Спецыяльны рэпартаж!

Сёння адбудзецца доўгачаканая прэм'ера «**Джэка і бабовага сцябла**»... першага фільма з трылогіі пра Джэка.

І зараз з намі кіраўнік Nimble Pictures і **выканаўчы прадзюсер** фільма, Мос Уотэрхаўс.

Добры вечар, Мос. Пачнем з аднаго пытання, на якое ўсе гледачы **да смерці** жадаюць пачуць адказ: ці з'явіцца тут сёння наш загадкавы **містэр Трук**?

Хто ведае, Гільда? Мабыць ён ужо тут. Але сёння не пра **яго**. Гутарка пойдзе пра першы **фільм пра Джэка**.





















*Фраза прыналежыць мядзведзю Ёгі з аднайменнага мультфільма.

Далей: Тое, што адбывалася насамрэч.